## РЭКЛАМНА — ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СТАРОНКА

■ АПК і рынак

# ПЯЦЬ ПРЫЗНАННЯЎ У ЛЮБВІ

### вяскоўцаў і гараджан да зямлі роднай і гаспадаркі калектыўнай

**Старшыня калгаса "40 год БССР" Салігорскага раёна М.В.Жарскі ў райвыканкомаўскім буфеце папрасіў шклянку мінеральнай вады. Налілі. Сказалі:**
**— З вас — трыста рублёў.**
**— Бацюхны! — схапіўся за галаву Мікалай Васільевіч. — Нам жа гэтыя грошы плацяць за цэлы літр малака. Малака!.. Як жа жыць чалавеку, які яго доіць?..**
**Тады старшыня яшчэ раз пераканаўся: вельмі правільна зрабіла праўленне калгаса, што не замкнулася толькі на раслінаводстве і жывёлагадоўлі, а ўзяло курс на развіццё падсобных промыслаў. Сёлета яны абяцаюць папоўніць грамадскую касу на мільярд рублёў...**
**Кароткая даведка. Калгас "40 год БССР" мае 2.240 гектараў сельгасугоддзяў, у асноўным, драбнаконтурных, пясчаных.**
**Сярэдняя ўрадлівасць ворыва — 22 балы.**
**У гаспадарцы 320 працаўнікоў, 300 пенсіянераў. Жывуць яны ў чатырох населеных пунктах, цэнтр — вёска Доўгае.**
**У распараджэнні калгаснікаў 36 трактароў, 28 аўтамабіляў, 20 камбайнаў розных марак.**
**Ні адзін чалавек не пажадаў аддзяліцца ад калгаса, працаваць самастойна.**

## СЯМЕЙНАЯ, ХОЦЬ І КАЛГАСНАЯ

Нават старшыня калгаса здзівіўся, убачыўшы ўскапаную зямлю каля свінарніка па абодва бакі ад дзвярэй.

— Ці не агуркі садзіць думаеце? — спытаў з усмешкай.

— Не. Кветкі. Унутры памяшкання чыста, дык і навокал парадак павінен быць, — адказала В.Р.Міхнавец. — Толькі трэба чымсьці абгарадзіць, каб жывёла не патаптала.

Сапраўды, міма катухоў, дзе ўтрымліваюцца паўсотні свінаматак з парасятамі, было проста прыемна прайсці. Чысціня, святло, падагрэў. Калідор пасыпаны нейкім дэзінфіцыруючым парашком. Паветра свежае. Калгасны ветурач М.Н.Бакуновіч растлумачыў, што такі парадак на ферме стаў пасля таго, як Вольга Рыгораўна пачала працаваць з дачкой Марыяй. Дапамагае ім і зяць Анатоль, і малодшая дачка Ніна прыбягае. А настрой, тон у рабоце задае маці, В.Р.Міхнавец, якая ўжо больш як два дзесяцігоддзі даглядае калгасную жывёлу. Яшчэ не так даўно яна працавала на ферме ў пары з жанчынай, якая была не вельмі акуратная, абыякавая. І работа ішла цераз пень-калоду. Пакуль ферма не стала сямейнай...

— Мы перадалі яе цалкам у распараджэнне Міхнаўцоў. І ўжо на наступны дзень я ўбачыў замок на дзвярах: маўляў, лішнім тут няма чаго рабіць, з"явіўся сапраўдны гаспадар... У нас дагавор: Міхнаўцы гадуюць парасят да двухмесячнага ўзросту і вагой не менш як дзесяць кілаграмаў, перадаюць у наступную групу. За кожную перададзеную галаву калгас плаціць пэўную суму. Вось людзі і стараюцца. За першы квартал сям"я выгадавала 209 парасят, а летась за гэты час іх мы атрымалі ўсяго 110. Розніца адчувальная. Чаму? Кармы ніхто не крадзе — нявыгадна. Чысціня, парадак усюды. Таму і паморак рэзка зменшыўся, — расказвае М.В.Жарскі і на ўсякі выпадак сплёўвае цераз плячо.

Старшыню падтрымала і гаваркая Вольга Рыгораўна:

— Мы з задавальненнем ідзём на работу, быццам парасяткі гэтыя нашы. Ведаем, што ніхто нічога за нас не зробіць, ніхто і не нашкодзіць. Ніхто не камандуе, не падганяе, а чым могуць, дапамагаюць. За што вялікі дзякуй праўленню калгаса сказаць хочацца.

А потым мы былі на малочнатаварнай ферме. Мікалай Васільевіч пагаварыў з даяркамі-ветэранамі Н.Ф.Філановіч і В.П.Баблеўскай. Пацікавіўся здароўем, справамі жанчын. А калі тыя зноў вярнуліся да сваіх кароў, з сумам дадаў:

— Гэтыя жанчыны пяць гадоў назад атрымлівалі ад сваіх груп рэкордныя надоі не толькі ў раёне, а і ў вобласці. Былі лаўрэатамі рэспубліканскай прэміі. Цяпер не да рэкордаў, ды іх ніхто і не ўлічвае. Шкада... І хочацца схіліць галовы перад гэтымі жанчынамі, якія цалкам аддаюць сябе калгасу, — працягваў старшыня. — Ніне Фёдараўне — ужо за семдзесят. Нядаўна захварэла, тэмпература моцна падскочыла. "Лячыцеся, — кажу, — адпачывайце, а мы замену знойдзем". Дзе там! Пакуль вярнуўся назад — Філановіч ужо на ферме. Бачыце, пабаялася: а раптам яе групу не так пакормяць, дрэнна падояць. Шкада, што сярод моладзі такога працоўнага энтузіязму нямнога, хаця і плата ўжо нядрэнная. Але, калі падумаць, то і вінаваціць яе асабліва нельга, бо самі ж усё паламалі, разбурылі. Героем нашага часу камерсанта, прасцей кажучы — спекулянта, зрабілі. Выходзіць, адзін масла тое ў поце чала здабывае, другі на ім нядрэнна нажываецца. Цяпер нешта спрабуем будаваць, а што — і самі не ведаем...

І толькі калі вярнуліся да размовы аб свінаферме Міхнаўцоў, твар старшыні зноў пасвятлеў. Усё ж не развучыліся, умеюць, любяць нашы людзі працаваць. І маладыя. Калі для гэтага патрэбныя ўмовы створаны. Значыць, не ўсё яшчэ згублена...





## ПРА ЛІСІЦ-ЧАРНАБУРАК І КАФЭ ПРЫ ДАРОЗЕ

Каля калгаснага цэха мастацкіх промыслаў стаяў непрыкметны вагончык на колах.

— Мы яго прывядзём у парадак. Мастак размалюе, і паставім каля трасы Салігорск—Мікашэвічы, — гаварыў М.В.Жарскі. — Але не так аздобаю, як пахамі будзе вабіць аўтамабілістаў вагончык: зробім у ім перасовачнае кафэ.

Вагон-кафэ — гэта часцінка эканамічнай праграмы калгаса, якую коратка сфармуляваць можна так: "Ад сваёй прадукцыі — максімальную аддачу!". Вядома, прасцей за ўсё выгадаваных свіней, бычкоў загнаць на аўтамашыну, ды — на мясакамбінат. Але прыкінься кошт бензіну, часам зусім смешныя закупачныя цэны... Таму ў калгасе "40 год БССР" вырашылі абсталяваць невялікі мясаперапрацоўчы цэх, самім гатаваць і рэалізоўваць шашлыкі, шніцэлі. І скуры застануцца, з якіх, вырабіўшы, боты пашыць можна ў сваёй жа майстэрні. А на Слуцкім мясакамбінаце яны знікаюць нібы ў бездані. Вантробы, іншыя адходы куды? Ці жывёліну, якая загіне? Зноў-такі нічога не прападае, бо ў калгасе цяпер ёсць звераферма. Пясцы, лісіцы-чарнабуркі ўсё падчысцяць. З іх вяскоўцы каштоўнае футра атрымліваюць. Праўда, сярод бедных на сённяшні дзень нашых людзей яно асаблівым попытам не карыстаецца. Але ж сапраўдны гаспадар глядзіць больш у дзень заўтрашні.

Тым не менш, выступаючы перад калгаснікамі, М.В.Жарскі кліча іх... назад. Да ўзроўню 1989 года, калі гаспадарка атрымлівала на сто гектараў сельгасугоддзяў больш як па тысячы цэнтнераў малака, прадавала яго па дзве тысячы тон у год. Было 2.500 галоў буйной рагатай жывёлы, тысяча свіней. І раптам — развал. Зніклі канцэнтраты. Ледзь ці не напарсткамі пачалі размяркоўваць паліва. З-за дэфіцыту і дарагоўлі запчастак напаўсілы стала працаваць тэхніка. Пагалоўе жывёлы, яе прадуктыўнасць, нягледзячы на намаганні вяскоўцаў, рэзка пакаціліся ўніз.

Цяпер калгаснікі, як кажуць, акліматызаваліся ў новых умовах. Знізіўся попыт на бульбу? Значыць, зменшым плошчы пад ёю, удвая больш будзем вырошчваць збажыны, каб і гораду прадаць, і сабе на тыя ж канцэнтраты зерня хапіла. Агуркі, капусту, моркву садзіць пачалі. У Салігорску месца для будаўніцтва магазіна калгас атрымаў, дзе будуць тры аддзелы: мясны, гароднінны, прамысловых тавараў... Кармацэх нібы гадзіннік працаваць стаў, каб ні грама дэфіцытнага фуражу не прапала. Асфальту дарагога не набярэшся? Калгас свой асфальтавы заводзік зманціраваў...

Карацей, вяскоўцы памалу прыстасоўваюцца да новых умоў. І вынікі ўжо ёсць. Пагалоўе свіней амаль аднавілася ў аб"ёмах лепшых гадоў. Надоі супраць леташняга адчувальна ўверх пайшлі.





## РАДАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ

У той дзень у калгас на семінар з"ехаліся выкладчыкі працы з усіх школ раёна. Дакладней — у яго цэх мастацкіх промыслаў. Кіраўнік С.М.Камароўскі коратка расказаў аб сваёй рабоце.

— У першую чаргу цэх створаны для таго, каб развіваць творчыя здольнасці вяскоўцаў. Тут, напрыклад, гурток школьнікаў займаецца разьбой па дрэву. І даволі нядрэнна. Нашы шкатулкі, хлебніцы дэманстраваліся на выстаўцы «Восень Міншчыны-93". І атрымалі высокую ацэнку ад многіх наведвальнікаў. Маляўнічыя драўляныя нашы шыльды ў навакольных вёсках, нават у Салігорску сустрэнеш. Робім шафы, іншую мэблю. Праўда, цяпер з матэрыяламі, сродкамі тугавата. Маглі б і больш прадукцыі даваць...

Вядома, ва ўсіх гэтых высечаных, выразаных з дрэва прыгожых вырабах, у асноўным, энергія Сяргея Мікалаевіча. Таленавітага самародка, які быццам не ўзоры на дошчачках робіць, а музыкай іх напаўняе. Хаця і не мае спецыяльнай мастацкай адукацыі. Але ўдзельнікі семінара задавалі пытанні і вучням мясцовай дзесяцігодкі — васьмікласніку Віталю Жвайдзесу, дзесяцікласнікам Юру Філановічу, Сяргею Мыслейку, якія завіхаліся над сваімі творамі.

— Пасля школы, хлопцы, можа, у мастацкае вучылішча падавацца будзеце?

— Хто яго ведае. Але тое, чаму навучымся тут, за спінаю насіць не трэба.

— Вясна на двары, мабыць, мяч ганяць ахвота?

— Тут цікавей — вунь якія рэчы з кавалка дрэва атрымліваюцца!

А ў суседнім пакоі Галіна Лявонцьева, Вольга Ткачэнка з той жа драўніны выраблялі вялікія, прыгожыя кветкі — васількі. Лепшая іх прадукцыя пойдзе ў Салігорск, у фірменны калгасны магазін, штосьці — на выстаўку.

— На вялікія даходы ад нашага цэха сёння, вядома, разлічваць нельга, — гаворыць С.М.Камароўскі. — Але ж немагчыма ў рублях ацаніць пачуццё прыгажосці, радасць творчасці, калі дзеці, ды і дарослыя, пераступаюць парог цэха ці любуюцца нашымі вырабамі ў іншых месцах. І ўжо за гэта праўленне калгаса заслугоўвае шчырых слоў падзякі. Не кажучы пра мэблю, якую робім прыгожа, надзейна, на многія гады, з лепшых сартоў дрэва...

Са словамі Сяргея Мікалаевіча цяжка не пагадзіцца.



## І МОДНІЦЫ СПАДАБАЕЦЦА

Калі чалавек упершыню зойдзе ў памяшканне, якое знаходзіцца ў Салігорску на вуліцы Заслонава, 30, то адразу і не зразумее, куды трапіў. Вось у вялікім пакоі каля ботаў, туфель завіхаюцца мужчыны. Ясна — тут шыюць, рамантуюць абутак. Але чаму цераз калідор паліцы ўстаўлены не толькі моднымі боцікамі, чаравікамі, а і рознымі вырабамі з дрэва?

Тлумачым: гэта цэх-магазін калгаса "40 год БССР". І калі ў яго кіраўніка В.І.Кажамякі знойдзецца вольная хвіліна, ён ахвотна пакажа сваю гаспадарку.

— Вось тут жанчыны крояць скуры, робяць загатоўкі для новага абутку. А гэта Таццяна Трухан ужо шые дэталі для жаночых ботаў. Кожны рух яе выверany, браку не бывае, — раскажа Валерый Іванавіч. — Тут, бачыце, Пётр Яфімовіч, майстар першага класа, шые, клеіць абутак. Рэкламацый на яго вырабы я прыпомніць не магу. Залатыя рукі! А гэта — магазін, дзе прадаецца наша прадукцыя, а таксама вырабы калгаснага цэха мастацкіх промыслаў.

— Мабыць, боты, туфлі вашы не вельмі купляюць? — засумняваўся я. — Бо камерцыйныя магазіны імпартнай прадукцыяй забітыя.

— Наша — не залежваецца. У мінулым месяцы мы, 14 работнікаў, рэалізавалі сваіх вырабаў на 15 мільёнаў рублёў, — тлумачыць В.І.Кажамяка. — Чаму? Па-першае, наша прадукцыя таннейшая за іншую, перакупшчыкі накідваюць на яе яшчэ працэнтаў 30 і то лёгка збываюць. Бо ў нас практычна ўсе заняты на "канвееры". Я — можна сказаць, уся адміністрацыя майстэрні: і начальнік, і эканаміст, і забеспячэнец, і бухгалтар. Таму і сабекошт вырабаў па сённяшніх мерках невысокі. Па-другое, якасць. У нас ручная работа, не параўнаеш жа зацяжку, якую зробяць першакласны майстар і бяздушная машына.

— Ну а "40 год БССР" якое дачыненне да вас мае?

— Ды самае непасрэднае — калгас нас "нарадзіў", — тлумачыць Валерый Іванавіч. — М.В.Жарскі не раз з болем пераконваўся: калі жывёліна загіне, то і скура яе, можна сказаць, прападае, бо ідзе за бясцэнак. У калгасах паморак, на жаль, справа не такая і рэдкая. Падзяліўся ён думкамі са мною, а я маю вопыт работы са скурамі. Знайшлі памяшканне, майстроў. Раскруцілі мы справу так, што цяпер не толькі калгасных, а і купленых у суседзяў скур не хапае. У пошуках сыравіны, матэрыялаў да Расіі дабіраемся. Дарагавата, але ўсё роўна справа выгадная. Для калгаса гэта — самая рэнтабельная галіна вытворчасці. Ну а мы сорак працэнтаў ад выручкі атрымліваем. Вось і лічыце...

— А раптам мне нічога з вашай прадукцыі не спадабаецца? — заяўляю я. — Захацелася чагосьці гэткага, ну, самага-самага...

— Калі ласка! — адказаў Валерый Іванавіч і разгарнуў маляўнічы каталог сучаснага замежнага абутку. — Выбірайце любую мадэль. Нашы майстры пашыюць. Дарэчы, не толькі абутак. Партаманет, сумачку, нават кабуру для пісталета змайстраваць можам.

Пакідаў я калгасны цэх-магазін з думкай: "А ўсё-такі можа быць сапраўдная змычка горада і вёскі! Калі за справу возьмуцца прафесіяналы, з душой".









## І БОГ З ІМІ

*За кіламетр ад Доўгага ўскрайкам дарогі ішла бабуля. Цяжка. Абапіраючыся на кіёк. Грэх не падвезці. Спыніліся.*

*— Ой, вялікі дзякуй! — узрадавалася старая, калі ёй дапамаглі ўладкавацца на заднім сядзенні.*

*— Навошта ж у такія гады ў далёкую дарогу выбіраецеся? —- пацікавіліся мы. — Хіба ж маладыя сваякі падмяніць вас не могуць?*

*— Ды ў гэтай справе, сыночкі, ніякія сваякі не падменяць, — адказала бабуля. — Да бога я хадзіла. Аўтобусаў цяпер не дачакаешся, таму я паціху, пешкі. У нашым Жоўтым Бродзе царквы няма, дык я ў Доўгае на сваіх трох паклыпала. Там жа царква дзейнічае. Дай бог здароўя кіраўнікам за такую добрую справу!*

*Калі ў свой час М.В.Жарскі заявіў, што думае ў цэнтры калгаса царкву ўзвесці, некаторыя толькі загадкава ўсміхнуліся. Маўляў, папулісцкі ход Мікалай Васільевіч перад выбарамі ў абласны Савет робіць. Набярэ Жарскі галасы, пераможа канкурэнтаў і забудзе аб абяцаным.*

*Старшыня калгаса, сапраўды, перамог на выбарах, атрымаў мандат народнага дэпутата. Але і царква ў Доўгім з"явілася. На новы храм у калгаса сродкаў не хапіла, цяпер ідуць перагаворы, каб скааперавацца для гэтай будоўлі з суседнімі гаспадаркамі. А пакуль што службу айцец Валерый праводзіць у памяшканні былога калгаснага клуба, прыстасаванага пад царкву. Ён абкладзены цэглай. Купалы дзрабляюцца на зямлі і вось-вось увянчаюць будынак.*

*— Трэба ратаваць дабро ў душах людзей, — тлумачыць Мікалай Васільевіч. — Надоі, прывагі жывёлы можна ўзняць за два-тры гады, а каб ачысціць душы людскія для справядлівасці, міласэрнасці, спагады, дзесяцігоддзі патрабуюцца.*

*І хто яго ведае: у тым, што «40 год БССР» сёння не адчувае вострага дэфіцыту рабочых рук, што сярэдні ўзрост яго працаўнікоў у апошнія гады «маладзее», чыя больш заслуга — школы, праўлення ці царквы? Бо тая ж наша бабулька, калі вылазіла з аўтамашыны, прызналася:*

*— Была б гадоў на сорак маладзейшая, сабрала б клункі ў каляску ды ў Доўгае жыць падалася б.*





На здымках:

1. Старшыня калгаса **М.В.Жарскі.**

2. Многа пасяўных, уборачных праў на роднай зямлі механізатар **М.Л.Рудзеня.** І цяпер ён працуе старанна, з душою.

3. **В.Р.Міхнавец** /у цэнтры/ разам з ветурачом **М.Н.Бакуновічам,** дачкой Марыяй і зяцем Анатолем.

4. Абутнік, спецыяліст першага класа **П.А.Яфімовіч.**

5. Загатоўшчыца **Т.В.Трухан.**

6. Мадэльер-тэхнолаг, яна ж і прадавец, **В.Ю.Баброва.**

7. Кіраўнік цэха мастацкіх промыслаў **С.М.Камароўскі** з членамі гуртка дзесяцікласнікамі Юрам **Філановічам** і Сяргеем **Мыслейкам.**

8. **Г.В.Лявонцьева** і **В.А.Ткачэнка** выраблюць кветкі.

9. І такія дамы будуюць калгаснікі.

10. Буслы, якія заўсёды з вяскоўцамі.

*Старонку падрыхтавалі Уладзімір БЫЧЭНЯ і Уладзімір АМЯЛЬЧЭНЯ /фота/.*

